www.nv-online.info

№ 17 (4064)

1 сакавіка 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

СКАЗАНА!



## Аляксандр ЛУКАШЭНКА:

***– Працягвайце ўдасканальваць матэрыяльную вытворчасць, і самае галоўнае – стварыўшы прадукт, прадайце яго! Вось і ўсе рэформы».***

(*З выступлення на нарадзе па павышэнні эфектыўнасці сацыяльна-эканамічнага комплексу 16 лютага 2016 года.*)

Рэдакцыя "Народнай Волі" папрасіла вядомых аналітыкаў, эканамістаў, палітыкаў пракаментаваць гэтыя словы А.Р.Лукашэнкі і адначасова выказацца наконт таго, што яны разумеюць пад рэформамі.

СЛОВА – ЭКСПЕРТАМ

**Леанід ЗАІКА, дырэктар аналітычнага цэнтра "Стратэгія":**



– Эканамісты класічнага стылю лічаць, што пры нармальнай рынкавай эканоміцы ніякія рэформы не патрэбны. Адным словам, там, дзе працуе рынак, дзе ёсць канкурэнцыя, рух інвестыцый, ніякія рэформы не патрэбны. Ну, могуць быць нейкія карэкцыі механізмаў, напрыклад, у падатковай сферы…

Рэформы патрэбны там, дзе шмат бюракратыі. Таму тэрмін "рэформы" ў дачыненні да Беларусі я ўвогуле не ўжываў бы. Трэба фарміраваць прафесійную каманду, бо ва ўрадзе высокапрафесійных эканамістаў, лічы, няма. У нас проста адну форму некампетэнтнасці мяняюць на другую форму некампетэнтнасці, і калі гэта рэформы, то я апошнія гадоў дваццаць пяць у гэтым не бачу ніякага сэнсу.

**Аляксандр АЎТУШКА-СІКОРСКІ, аналітык Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў:**



– Пад рэформамі трэба разумець інстытуцыянальныя змены. Па іншых правілах гульні павінны дзейнічаць эканамічныя агенты. Для гэтага неабходна мяняць заканадаўства і ўсё тое, што рэгулюе эканамічнае асяроддзе.

Рэформаў чакаюць даўно. Цяперашняя мадэль вычарпала ўсе рэсурсы. Яна трымалася дзякуючы высокім коштам на нафту і калій. Мадэрнізацыя эканамічная – гэта не ўсталяванне новых станкоў, каб выраблящь больш якасную прадукцыю. Рэформа павінна змяніць стымулы паводзін эканамічных агентаў. Павінен знізіцца ўзровень умяшальніцтва дзяржавы ў справы бізнесу і насельніцтва. Бізнес і насельніцтва павінны самі вырашаць, як ім узаемадзейнічаць, каб лепш працаваць. У дзяржавы павінна быць толькі назіральная функцыя. Ідэальная форма – рынкавая эканоміка.

Трэба стымуляваць малы і сярэдні бізнес, які будзе браць тыя кадры, якія вызваліліся з нейкіх прадпрыемстваў. Павінна быць сістэма павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі, калі, напрыклад, учарашні слесар можа ўладкавацца на працу па іншай спецыяльнасці.

**Андрэй ЕЛІСЕЕЎ, палітолаг:**



– Патрэбна змяншэнне долі ў эканоміцы дзяржаўнага сектара, неэфектыўнасць якога неаднаразова прызнавалі самі ўлады. Гаворка павінна ісці пра павелічэнне долі прыватнага сектара, пра рэструктурызацыю дзяржаўных прадпрыемстваў. Трэба, каб прадпрыемствы, якія стала працуюць у мінус, зачыняліся, а іх працаўнікі мелі магчымасць перакваліфікавацца і знайсці сябе ў іншых сферах.

ТОЛЬКІ ЛІЧБЫ

## І «Беларуськалій» падкасіла…

Аператыўныя статыстычныя дадзеныя сведчаць, што ў студзені эканоміка Беларусі паскорыла падзенне.

Ключавую ролю ў гэтым адыграла зніжэнне аб'ёмаў прамысловай вытворчасці, якое няўмольна працягваецца. Як паведаміў Белстат, у аўтсайдарах апынуліся нават некаторыя віды прадукцыі, якія традыцыйна забяспечвалі аснову беларускага экспарту і значную долю паступленняў у бюджэт. У прыватнасці, выпуск калійных угнаенняў у студзені скараціўся на 34,7% у параўнанні са студзенем мінулага года. Больш за тое, эксперты ў кароткатэрміновай перспектыве не прагназуюць сур'ёзнага росту попыту і цэн на хлоркалій на сусветных рынках.

Працягвае падаць выпуск грузавікоў (мінус 38,6%, запасы складоў у 3,3 раза перавышаюць сярэднямесячны аб'ём вытворчасці), трактароў (мінус 25,5%, склады – у 1,8 раза больш сярэднямесячнага выпуску), аўтобусаў (мінус 31,9 %, склады – у 2,4 раза больш сярэднямесячнага выпуску).

Куды коцімся?

Праўда, больш аптымістычна пачатак года склаўся, да прыкладу, у вытворцаў тэлевізараў (рост у 2 разы да студзеня мінулага года, на складах – 133% ад сярэднямесячнага выпуску) і ровараў (прырост на 23,8%, на складах – 120% ад сярэднямесячнага выпуску).

**Ігар КАРНЕЕЎ.**



ЧУЛІ?

## Наступны перапіс насельніцтва – у 2020 годзе

Перапіс насельніцтва, запланаваны ў Беларусі на 2020 год, будзе сумешчаны з сельскагаспадарчым перапісам.

У дадатковым лісце апытання будзе сабрана інфармацыя аб наяўнасці ў насельніцтва зямельных участкаў, жывёлы, птушкі, пладовых дрэў і г.д.

АДКРЫТЫМ ТЭКСТАМ

## Раман Бязсмертны прагназуе канфлікт на мяжы Беларусі з Расіяй

На мяжы Беларусі з Расіяй можа распачацца канфлікт. Пра гэта заявіў у тэлевізійным эфіры "24-га канала" былы Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Украіны ў Беларусі **Раман Бязсмертны**.

На яго думку, крамлёўскаму кіраўніцтву трэба справакаваць як мага больш канфліктаў, каб мець магчымасць сесці за адзін стол з амерыканскім і еўрапейскімі лідарамі і такім чынам заявіць пра Расію як пра ўдзельніка геапалітычнага працэсу. Прытым і сірыйская вайна, і вайна ва Украіне, паводле слоў Рамана Бязсмертнага, не апошнія месцы канфліктаў, якія можа арганізаваць Пуцін.

У ГАСЦЯХ

## Генсек Сацінтэрну ў Беларусі



У Беларусі знаходзіцца генеральны сакратар адной з самых уплывовых сусветных арганізацый – Сацыялістычнага інтэрнацыяналу – **Луіс АЯЛА**. Прыехаў ён па прыватным запрашэнні былога палітвязня **Мікалая СТАТКЕВІЧА**, які з'яўляецца старшынёй аргкамітэта па стварэнні сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада".

– *Генеральны сакратар Сацінтэрну сустракаўся з сябрамі аргкамітэта па стварэнні нашай партыі. Ён абвясціў, што Сацінтэрн пачынае кампанію за поўную рэабілітацыю мяне і іншых былых палітзняволеных,* – сказаў "Народнай Волі" М.Статкевіч.

Нагадаем: генеральны сакратар Сацыялістычнага інтэрнацыяналу Луіс Аяла быў у Мінску ў 2011 годзе і дамагаўся сустрэчы са зняволенымі экс-кандыдатамі ў прэзідэнты, у тым ліку з Мікалаем Статкевічам. Але дазволу на гэта ён не атрымаў. Тады спадар Аяла заклікаў беларускія ўлады вызваліць з-за крат усіх, хто быў арыштаваны пасля прэзідэнцкіх выбараў. Ён выказваўся рэзка і абурана: «*Такое здаралася раней у Чылі і Аргенціне, але ніколі не чакаў, што такое можа быць у Еўропе… Я назіраў за выбарамі ў многіх краінах свету і нідзе не бачыў, каб усе кандыдаты ў прэзідэнты былі арыштаваны. Гэта нешта вельмі шакіруючае для мяне. Гэта прыцягвае ўвагу кожнага. Як кандыдаты могуць быць арыштаваны? Гэта няправільна…*»

Увесь час, пакуль беларускія палітвязні, у тым ліку Мікалай Статкевіч, знаходзіліся ў турмах, Сацінтэрн дамагаўся іх вызвалення. Рознымі метадамі. У тым ліку – праз кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў. Справа ў тым, што ў многіх краінах менавіта сацыялістычныя партыі з'яўляюцца кіруючымі ці ўваходзяць у кіруючыя кааліцыі.

**Любоў ЛУНЁВА.**



АНОНС

# Патрыёт

*Як я запісвала інтэрв'ю з трэцім прэзідэнтам Украіны Віктарам Юшчанкам*



**Экс-прэзідэнт Украіны Віктар Юшчанка, сам таго не ведаючы, падказаў мне ідэю праекта "Расія і я". Летась увесну я глядзела ягонае інтэрв'ю расійскаму тэлеканалу "Дождь". Юшчанка вельмі жорстка і эмацыянальна гаварыў пра Расію і пра вайну. Я мушу яго запісаць, – паабяцала я сама сабе, – але не толькі яго, я хачу распытаць пра сучасную і мінулую Расію і іншых былых кіраўнікоў постсавецкіх краін.**

**Перамовы з памочнікамі Юшчанкі доўжыліся некалькі месяцаў. Напрыканцы ліпеня я ляцела ў Кіеў, маючы толькі дамоўленасць на інтэрв'ю з першым украінскім прэзідэнтам Леанідам Краўчуком і адзін дзень у запасе. Запісаць Юшчанку – гэта быў выклік і справа гонару.**

**Каля восьмай вечара памочнікі Юшчанкі прызначылі мне месца і час – 10 гадзін раніцы наступнага дня. Напэўна, я іх усё ж "дастала" – тэлефанаваннямі, смс, паведамленнямі ў "Фэйсбуку"...**

**Мы запісваем інтэрв'ю ў цэнтры Кіева, у кватэры – своеасаблівым музеі народнай культуры Украіны. Тут Віктар Юшчанка сабраў велічэзную калекцыю ручнікоў, ваз, абрусаў, карцін, абразоў, розных прадметаў народных рамёстваў. Маім аператарам даводзілася быць вельмі асцярожнымі, каб не разбіць старажытныя вазы.**

**«Слава Беларусі!» Гэта першыя словы трэцяга прэзідэнта Украіны, які, увайшоўшы, адразу вітае мяне пацалункам у шчаку. Пакуль нам чапляюць мікрафоны, Віктар Юшчанка выказвае шкадаванне, што фармат праекта «Расія і я» не прадугледжвае, каб я задавала пытанні па-беларуску, а ён адказваў па-ўкраінску. Віктар Андрэевіч адразу запытваецца пра першага кіраўніка Беларусі Станіслава Шушкевіча і дадае, што падчас розных канферэнцый у рамках клуба былых прэзідэнтаў ён заўсёды выбірае месца побач з Шушкевічам, паколькі яны аднадумцы.**

**Я нагадваю быламу прэзідэнту пра яго інтэрв'ю «Дождю», дзякуючы якому я цяпер сяджу побач з ім, і Юшчанка згадвае, што на пачатку гутаркі ён ледзь не пасварыўся з расійскім журналістам, але потым яны добра паладзілі.**

**Мы запісваем гутарку, седзячы – я на вялікай скуранай канапе, ён у крэсле. У кадры – вялікі ўкраінскі сцяг, на сцяне партрэт Тараса Шаўчэнкі, недалёка – вышытая ўкраінскім арнаментам карціна, праца былой зняволенай ГУЛАГа.**

**У Віктара Юшчанкі своеасаблівая манера адказваць на пытанні. Ён гаворыць грунтоўна, пашырана, з філасофскімі развагамі. Выразныя паўзы – гэта таксама ягоны стыль. У яго прыгожы ўкраінскі акцэнт. Мы гаворым пераважна пра Расію і вайну на тэрыторыі Украіны. За дзень да інтэрв'ю дамоў да Юшчанкі прыехала жанчына з усходняй Украіны, у якой разбамбілі хату. Яму вельмі балюча, што нічым не змог ёй дапамагчы, акрамя таго, што аддаў сваю пенсію.**

**Віктар Андрэевіч, не чакаючы пытанняў, сам пераходзіць да асэнсавання свайго прэзідэнцтва: «Прэзідэнты пакідаюць вялікі след у жыцці грамадства. Вельмі важна разумець, што ён хацеў, з чым прыйшоў. Што атрымалася з гэтага? Што не атрымалася? Гэта не заўсёды, і я сказаў бы, далёка не заўсёды віна прэзідэнта. Я лічыў, што заявіў новую палітыку ўкраінскай нацыі, якая не будзе мець альтэрнатывы ў бліжэйшыя многія гады. Маю палітыку паўтараць, можа быць, з меншым поспехам, можа быць, у чымсьці з большым поспехам".**

**Я завяршаю гутарку пытаннем пра Радыё Свабода, і вопытны палітык і аратар Юшчанка ведае, як зрабіць моцны фінал. Радыё Свабода, паводле яго меркавання, увасабляе паняцце праўды, ключавой праўды. І тут жа ён праводзіць гістарычную паралель: «Чаму мы Пуціна пераможам? Ды таму, што на нашым баку праўда. А на яго баку хлусня. На яго баку Сатана, а з намі Бог».**

**Былы прэзідэнт, чый боль цяпер – вайна, чый галоўны вораг – Пуцін і сучасная расійская палітыка. Патрыёт Украіны, які марыць пабудаваць дом-музей Тараса Шаўчэнкі. Палітык, які ставарае прэзідэнцкую бібліятэку і архіў. Прэзідэнт, які мог бы стаць паспяховым кіраўніком краіны Еўрасаюза. Лідар, чыё імя назаўсёды застанецца звязаным з Аранжавай рэвалюцыяй. Такім я пабачыла трэцяга прэзідэнта незалежнай Украіны Віктара Юшчанку.**

**А ягоныя адказы на пытанні для праекта Радыё Свабода «Расія і я» прапаную кожнаму чытачу "Народнай Волі" ацаніць самому.**

**Ганна СОЎСЬ.**

ЗА ПРАХАДНОЙ

## Будаўнікі без работы

*У Полацку можа стаць на адно прадпрыемства менш: будаўніча-мантажнаму трэсту №22 пагражае ліквідацыя. Ён ужо некалькі месяцаў не атрымлівае заказаў на ўзвядзенне новых аб'ектаў. Цягнуць на дно и немалыя даўгі.*

– *Так, закрыццё прадпрыемства не выключана,* – сказала «Народнай Волі» намеснік кіраўніка па фінансах і эканоміцы **Наталля Мыснік**. – *Праўда, афіцыйных папер на закрыццё пакуль няма, і статус трэста на паперы не вызначаны. Дакумент з'явіцца ў бліжэйшы час…*

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## Багатае БАТЭ і ...

Толькі адна каманда – БАТЭ з Барысава – павялічыла свой бюджэт. Летась ён складаў 5 мільёнаў долараў, сёлета – ужо 6 мільёнаў (108,5 мільярда беларускіх рублёў). На другім месцы мінскае "Дынама" – традыцыйны канкурэнт барысаўчан. Іх бюджэт зменшыўся з 4 да 3 мільёнаў долараў, што адпавядае 64,8 мільярда рублёў. У салігорскага "Шахцёра" бюджэт складае 2,5 мільёна долараў (55 мільярдаў рублёў).

**Максім ПЛОТНІКАЎ.**

# Іх лёс хвалюе Беларусь!



**Юрый ЗАХАРАНКА**
знік 6142 дні таму



**Віктар ГАНЧАР**
знік 6010 дзён таму



**Анатоль КРАСОЎСКІ**
знік 6010 дзён таму



**Дзмітрый ЗАВАДСКІ**
знік 5715 дзён таму

АСОБА

## Уладзімір ПАРФЕНОВІЧ:
# «У Беларусі я гатовы працаваць бясплатна...»



*Трохразовы алімпійскі чэмпіён па веславанні і былы дэпутат Палаты прадстаўнікоў Уладзімір ПАРФЕНОВІЧ распавёў “Народнай Волі” пра тое, чаму ён пераехаў працаваць з Расіі ў Польшчу і адмовіўся ад сустрэчы з расійскім прэм’ер-міністрам Дзмітрыем Мядзведзевым, паразважаў пра спорт і не толькі...*

**– Уладзімір Уладзіміравіч, ведаю, што зараз вы працуеце ў Польшчы трэнерам у нацыянальнай зборнай па веславанні. Ці часта ўдаецца бываць у Беларусі?**

– У Мінск прыязджаю рэгулярна – бываю недзе тыдзень на месяц. І гэта не залежыць ад таго, дзе знаходжуся. Так было, калі працаваў галоўным трэнерам мужчынскай зборнай Расіі па веславанні, так ёсць і зараз, калі перабраўся ў Польшчу, дзе трэнірую мужчынскую каманду. Пакуль працоўны кантракт разлічаны на адзін год, а далейшы мой трэнерскі лёс будзе залежаць ад выступленняў зборнай Польшчы на Алімпіядзе ў Бразіліі. Для каманды створаны ўсе ўмовы, будзем працаваць. Адзначу, што ў веславанні ў палякаў яшчэ не было ніводнага алімпійскага чэмпіёна.

**– Я так разумею, прапаноў працаваць у Беларусі ад нашых спартыўных чыноўнікаў вам не паступала?**

– Апошнюю прапанову аб працаўладкаванні мне зрабіў асабіста Аляксандр Лукашэнка. Праўда, было гэта ў далёкім 2004 годзе, калі заканчваліся мае дэпутацкія паўнамоцтвы. Тады кіраўнік краіны публічна паабяцаў падарыць мне плуг. Трэба думаць, каб я без работы не застаўся. Але абяцанку сваю ён так і не выканаў, а таму даводзіцца працаваць на чужыне.

А калі сур’ёзна, дык за апошнія 10–12 гадоў мне ніводнага разу ніхто не прапанаваў працу ў Беларусі. Сам чаму не папрасіў? Не ў тым я ўзросце, каб напрошвацца. Хаця, прызнаюся шчыра, калі б у маіх трэнерскіх паслугах былі зацікаўлены на Радзіме, то я, хутчэй за ўсё, такую прапанову прыняў бы. Больш за тое, быў бы гатовы працаваць і бясплатна.

**– Вы альтруіст?**

– Чаму альтруіст? Да пенсіі мне яшчэ некалькі гадоў засталося, а якія-ніякія грошы ў Беларусі я атрымліваю. За тое, што ў свой час цягам пяці гадоў уваходзіў у зборную СССР, зараз мне выплачваюць прыкладна 100 долараў у месяц (2 мільёны 500 тысяч рублёў). На нешта хапала б...

**– Здзекуецеся? Гэтых грошай пры сённяшніх коштах хопіць толькі на “камуналку” і каўбасныя вырабы не самага лепшага гатунку...**

– Я не здзекуюся, а канстатую факт: менавіта так у Беларусі ацэньваюць унёсак у развіццё спорту былых алімпійцаў, якія выступалі яшчэ ў савецкія часы. А наконт коштаў... Я шмат у якіх краінах пабываў і хачу сказаць, што ў Беларусі цэны адны з самых высокіх у свеце. Тут мы, безумоўна, у лідарах. Я ж бачу, колькі ў той жа Польшчы каштуе кілаграм мяса ці рыбы і колькі на радзіме.

**– Чаму б вам у палітыку не вярнуцца? Тлумачылі б людзям усё гэта...**

– Не, планаў вяртацца ў беларускую палітыку ў мяне няма. Па-першае, няма з кім. Можа, рэзка прагучыць, але ўсе гэтыя людзі, якія пазіцыянуюць сябе як дэмакратычная апазіцыя, – махляры і шарлатаны. Па-другое, няма ніякага сэнсу займацца тым, што ў Беларусі адсутнічае. Дзякуй Богу, мяне ніхто з псеўдадэмакратаў у свае партыі-рухі не клікаў. Ды я і не пагадзіўся б.

**– Дарэчы, ці падтрымлівалі вы стасункі з генералам Фраловым, з якім вы былі паплечнікамі падчас дэпутацтва і які перад сваёй смерцю заяўляў пра намер балатавацца ў прэзідэнты?**

– З Валерыем Дзмітрыевічам цёплыя стасункі ў нас захаваліся да самай яго смерці. Пра ідэю яго “паходу” ў прэзідэнты я ведаў, хоць ставіўся да гэтага скептычна... Шкада толькі, што на магіле ягонай я так пакуль і не пабываў. Ён пахаваны ў Гродне, усё ніяк туды не даеду.

**– Давайце адыдзем ад палітыкі... У свой час у вас былі планы па стварэнні Клуба алімпійскіх чэмпіёнаў. Яны засталіся?**

– Не. Я не ўпэўнены, што гэты клуб быў бы зарэгістраваны, бо, як паказвае практыка, за апошнія дзесяць гадоў у краіне не была зарэгістравана ніводная больш-менш значная грамадская ініцыятыва. Да таго ж многія беларускія алімпійскія чэмпіёны шукаюць лепшай старасці ў суседніх краінах.

**– Каго вы маеце на ўвазе?**

– Напрыклад, у Расіі даўно жыве наш праслаўлены фехтавальшчык Віктар Сідзяк. Там жа і наш славуты стралок Аляксандр Газаў. І папракаць іх за тое, што яны пераехалі з “сытай” Беларусі ў суседнюю краіну, няма ніякага сэнсу. У Расіі толькі за тое, што ты алімпійскі чэмпіён, табе штомесяц выплачваюць прыкладна 500 долараў. А тым, хто дажыў да пенсіённага ўзросту, дадаюць яшчэ 1000 “зялёных”.



**– Вам не паступалі прапановы аб змене грамадзянства?**

– Былі, я ж чатыры гады галоўным трэнерам мужчынскай зборнай Расіі адпрацаваў. Алімпійскае золата выйграў разам з камандай, апярэдзіўшы беларусаў. Мне казалі адкрытым тэкстам: “Прымай расійскае грамадзянства, будзеш тут як сыр у масле коўзацца”. Я адмовіўся, і гэта быў мой свядомы выбар. Проста палічыў, што мне не трэба чужога хлеба, застаўся, як бы гэта высока ні прагучала, патрыётам Беларусі. І не пашкадаваў, бо з працай у Расіі з-за пэўных абставін прыйшлося “завязаць”. Калі коратка – не сышоўся характарам з уплывовымі людзьмі. Некалькі месяцаў сядзеў без працы, а потым паступіла прапанова з Варшавы.

**– Ведаю, што за час працы ў Расіі ў вас была магчымасць сустрэцца з прэм’ер-міністрам Дзмітрыем Мядзведзевым, але вы на гэта не пайшлі. Чаму?**

– Не мае гэта. Мне многія казалі: ты б яму там пра беларускую палітыку распавёў... І што далей? Навошта мне гэта? У мяне быў свой кавалак працы, у Мядзведзева – свой. У мяне – свае праблемы, у палітыкаў – свае. А лезці ў палітыку, каб знайсці для сябе месца пад сонцам, – гэта не мой шлях. Я хачу займацца той справай, якую добра ведаю і ў якой запатрабаваны.

**– Уладзімір Уладзіміравіч, у гэтым годзе ў Бразіліі пройдзе чарговая Алімпіяда. Чаго ад вас чакаюць у Польшчы?**

– Добрага выступлення, хаця каманда для мяне новая, я толькі пачынаю працу. Тым не менш задачы стаяць сур’ёзныя: пакуль у палякаў толькі адна алімпійская ліцэнзія, трэба папоўніць гэту скарбонку. Зараз вось адпраўляемся на зборы ў Іспанію, потым будзе алімпійская кваліфікацыя ў Дуйсбургу. Дарэчы, за выступленнямі беларусаў таксама сачу і лічу, што з Бразіліі беларускія весляры могуць прывезці некалькі медалёў. Хоць у спорце здараюцца форс-мажорныя сітуацыі.

**– Маеце на ўвазе допінгавую праблему?**

– І яе таксама. Беларуская фармакалогія, наколькі я ведаю, па-ранейшаму далёкая ад ідэалу, час ад часу ўсплываюць допінгавыя скандалы. Я ўвогуле выступаю за чысціню ў спорце высокіх дасягненняў і супраць таго, каб спартсмены злоўжывалі “хіміяй”. Спадзяюся, што ў беларусаў на Алімпіядзе не будзе допінгавых скандалаў, бо на сваім прыкладзе ведаю, што адчувае чалавек, які прымае допінг.

**– Вас у свой час прымушалі ўжываць забароненыя прэпараты?**

– Так, справа была ў 1984 годзе. Савецкі Саюз тады байкатаваў Алімпіяду ў Лос-Анджэлесе і праводзіў альтэрнатыўны турнір “Дружба-84”. Я павінен быў выступаць у “чацвёрцы”. Перад стартам тром маім партнёрам зрабілі па некалькі забароненых уколаў. Я спачатку аднекваўся, а потым мне паставілі ўмову: калі хочаш быць у зборнай – рабі, як мы кажам! Зрабіў... Натуральна, сорамна было потым. Мы выйгралі тую гонку, але непрыемнае адчуванне засталося. Зрэшты, наступстваў для здароўя тады не было – доза была нязначная, і ўколы тыя рабілі не пастаянна.

Сёння хачу сказаць: ніякія медалі не вартыя страты ўласнага здароўя і рызыкі ганебна завяршыць сваю спартыўную кар’еру!

**Гутарыў Віталь ГАРБУЗАЎ.**

КРЫЖАВАНКА

# «Мова беларуская мая!»

*Прысвячаецца святу беларускага пісьменства ў г.Шчучыне*

**Па гарызанталі:** 3.“...”, “Апостал” – падручнікі, якія ў XII стагоддзі былі ў першай на Беларусі манастырскай школе асветніцы Святой Еўфрасінні Полацкай. 9.Рознае агароднае зелле. 10.“Кніга – з крыламі...\\Бы птушка,\\Што ў ... кліча нас;\\Кніга – нібы папялушка,\\Што вядзе нас на Парнас” – з верша М.Курылы “Кніга”. 11.“Аб чымсь светлым, аб чымсь новым\\Твая ... грае нам;\\Грае, грае, а ў ёй мова\\Наша чуецца без плям” – з верша Я.Купалы “Аўтарцы “Скрыпкі беларускай”, які паэт прысвяціў паэтэсе-рэвалюцыянерцы Цётцы (А.Пашкевіч), якая нарадзілася на Шчучыншчыне. 14.Краіна, дзе наш суайчыннік Ігнат Дамейка, які вучыўся ў Шчучынскім вучылішчы, лічыцца народным героем; яго імем названы горад у гэтай краіне, ланцуг гор, мінерал і кветка. 15.“Зыход”, “Іоў” “...” – творы Ф.Скарыны, у якіх упершыню былі прыведзены ў прадмовах вершаваныя радкі. 16.Адрэзак часу, на працягу якога ідзе спартыўная гульня. 19. ... піша, а розум водзіць (прык.). 20.Водгук. 23.Доўгае гнуткае галлё некаторых хмызнякоў. 24.“Старажытная. Ты самая славянская.\\Светлая, як ... у расе.\\Вобразная, вольная, пявучая,\\Мова беларуская мая!” – з верша П.Панчанкі “Беларуская мова”. 27.Тытульны ... – першы загалоўны аркуш кнігі, які ўпершыню быў выкарыстаны Ф.Скарынам. 31.Беларускі часопіс для дзяцей і моладзі, які заснавала і рэдагавала ў 1914 годзе Цётка. 33.Раздзел фізікі. 34.“Заву цябе, ..., маленькай сталіцай\\І справай і песняй цябе ўслаўляю” – з верша Г.Сцяпанчанкі “Шчучынскі вальс”. 35. ... – не хвароба, гады не адбірае (прык.).

**Па вертыкалі:** 1.Халодны верасень – ..., ды карміць можа (прык.). 2.“Бульбяны ... плыве над галавой” – з верша С.Законнікава “Капаюць бульбу землякі”. 3.Драматычны твор. 4.Тое, што і контур. 5.Лёгкія туфлі без абцасаў. 6.Тое, што і “ірвач”. 7.Рака, правы прыток Нёмана. 8.Член тайнага студэнцкага таварыства, якое існавала пры Віленскім універсітэце. Ім быў магістр філасофіі, паэт Ануфрый Петрушкевіч, ураджэнец г.Шчучына; многія лічаць яго адным з першаадкрывальнікаў беларускага фальклору. 12.Слова або зварот, якія ўвайшлі ў некаторыя славянскія мовы з царкоўнаславянскай. 13.Першая праца на беларускай мове асветніка XVI стагоддзя Сымона Буднага, якая выйшла ў Нясвіжскай друкарні. 17.“Жыве ў вяках беларускае ... –\\Народа душа і народа хвала” – з верша А.Бачылы “Матчына мова”. 18.Вучы ..., вучыся і ў народа (прык.). 21.Гарадскі пасёлак на Шчучыншчыне, малая радзіма дзеяча міжнароднага рэвалюцыйнага руху, паплечніка К.Каліноўскага, генерала Парыжскай камуны В.Урублеўскага. У гэтым населеным пункце нарадзілася артыстка-“купалаўка”, народная артыстка Беларусі Вольга Галіна (В.Александроўская); тут, у сямейным склепе, пахаваны гродзенскі стараста Антоній Тызенгауз. 22.Цыкл лекцый ці дакладаў, прысвечаных пэўнаму колу пытанняў. 25.Пісьмовая прылада. 26.Пасудзіна для мыцця, купання. 28.Прымацаваны да дрэўка кавалак матэрыялу, часта з эмблемай. 29.Выпас. 30. ... стараецца, а бацька ў вус пасміхаецца (прык.). 32.“Запахла бульбаю пячонай,\\Туман дыміцца ля ракі.\\Пакінуць ... свой улюбёны\\Не хочуць, раяцца шпакі” – з верша П.Броўкі “Верасень”.



### Адказы на крыжаванку

**Па гарызанталі:** 3.“Псалтыр”. 9.Ахрап’е. 10.Вышыні. 11.Скрыпка. 14.Чылі. 15.”Эсфір”. 16.Тайм. 19.Пяро. 20.Рэха. 23.Лаза. 24.Травы. 27.Ліст. 31.“Лучынка”. 33.Оптыка. 34.Шчучын. 35.Грамата. **Па вертыкалі:** 1.Бацечка. 2.Пах. 3.П’еса. 4.Абрыс. 5.Тапкі. 6.Рвач. 7.Уша. 8.Філамат. 12.Славянізм. 13.“Катэхізіс”. 17.Слова. 18.Народ. 21.Жалудок. 22.Чытанні. 25.Ручка. 26.Ванна. 28.Флаг. 29.Паша. 30.Сын. 32.Кут.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ.**
*г.Дзяржынск.*

НА ЗАМЕТКУ

# Книги, которые читают топы...



Видный белорусский ИТ-предпринима-тель, сооснователь компаний Viaden Media и exp(capital) Виктор Прокопеня вышел на свободу в конце декабря после девяти месяцев пребывания в СИЗО по обвинению в незаконной предпринимательской деятельности. По словам людей, близких к одному из самых успешных белорусских бизнесменов, за время в неволе он прочитал более 100 книг. Списком 10 лучших их них бизнесмен поделился на своей странице в Facebook. «Это часть того, что я прочитал за 9 месяцев прошлого года. 90% из этого стоило времени и можно рекомендовать прочитать», – написал Прокопеня.

**Дарон Аджемоглу, Джеймс Робинсон «Почему одни страны богатые, а другие бедные»**

Основываясь на новой институциональной теории, американские исследователи Джеймс Робинсон и Дарон Аджемоглу выдвигают объяснения различий в экономическом и социальном развитии различных государств и факторов, способствующих либо препятствующих экономическому росту и накоплению достатка.

**Дэниел Ергин «Добыча. Всемирная история борьбы за нефть, деньги и власть»**

Подробная история мировой нефтяной промышленности от 1850-х до 1990-х годов, написанная Дэниелом Ергином, признанным авторитетом в области энергетики, международной политики и экономики. В 1992 году книга удостоена Пулитцеровской премии.

**Айн Рэнд «Атлант расправил плечи»**

Центральное произведение культовой американской писательницы (кстати, этнически русской), переведенное на множество языков и оказавшее огромное влияние на умы нескольких поколений читателей. Своеобразно сочетая фантастику и реализм, утопию и антиутопию, романтическую героику и испепеляющий гротеск, автор очень по-новому ставит «проклятые вопросы» и предлагает свои варианты ответов – острые, парадоксальные, во многом спорные.

**Philip Maffetone. The big book of endurance and training**

Книга признанного на Западе спортивного доктора и диетолога учит спортсменов, как оставаться здоровыми, достигать оптимальной физической формы и избегать травм на протяжении долгих лет. Подход Фила Маффетона к выносливости предполагает «индивидуализированную» систему, основанную на построении сильной аэробной базы и интенсивном сжигании жиров, потере веса, устойчивой энергии и здоровой иммунной системе.

**Митио Каку «Будущее разума»**

В этой книге американский физик-теоретик, активный популяризатор науки рассказывает об истории мозга, о современных инструментах, позволяющих не только исследовать структуру мозга, но и следить за его работой. Он пишет о технологиях, которые могут дать возможность записывать воспоминания и сны, читать мысли и практиковать телекинез.

**Егор Гайдар «Гибель Империи»**

Монография Егора Гайдара, российского государственного деятеля, экономиста, одного из руководителей и идеологов экономических реформ начала 1990-х в России, посвящена анализу экономических и социально-политических причин распада СССР.

**Эшли Вэнс «Илон Маск. Tesla, SpaceX и дорога в будущее»**

Проведя более 50 часов в беседах с Маском и опросив около 300 человек, автор представляет независимый и разносторонний взгляд на жизнь и достижения самого яркого предпринимателя Кремниевой долины.

**Дэниел Канеман «Думай медленно... Решай быстро»**

Психолог, профессор Принстонского университета и лауреат Нобелевской премии по экономике за «применение психологической методики в экономической науке, в особенности – при исследовании формирования суждений и принятия решений в условиях неопределенности» объясняет в книге, почему мы подчас совершаем нерациональные поступки и как мы принимаем неверные решения.

**Daniel Yergin, Joseph Stanislaw. The Commanding Heights: The Battle for the World Economy**

«Невозможно даже представить лучшего отчета о развитии глобальной политики и экономики после Второй мировой войны», – написала про эту книгу газета Wall Street Journal.

**Мемуары первого премьер-министра Сингапура и одного из создателей сингапурского «экономического чуда» Ли Куан Ю**

Ну что ж, бизнесмены такого уровня, как Виктор Прокопеня, заработавшие свои капиталы не доступом к государственному бюджету, а головой и мозгами, плохого не посоветуют. Читайте!!! Только все-таки не в СИЗО!!!

ВНЕ ИГРЫ

## Алексей ПАНКОВЕЦ:
# «Государство хочет закрыть дыры за счет народа»

*Футболист жодинского «Торпедо-БелАЗ» **Алексей Панковец** высказался о ситуации с тарифами на жилищно-коммунальные услуги.*



*«Меня во всей этой истории озадачило другое, – сказал футболист tribuna.com. – В Беларуси почему-то поднимают тарифы, когда люди начинают беднеть. Почему это было не сделать, когда повышались зарплаты и народ себя чувствовал уверенно? Никто бы так болезненно нововведение не воспринял. Когда у государства нет денег, оно хочет закрыть дыры за счет народа. И это больнее всего бьет по обычному человеку, так как спортсмены с большего могут себе позволить эту коммуналку оплатить. При этом белорусы – послушные люди. Получили бумагу – оплатили. А уж потом начинают думать, как прожить».*

Панковец рассказал, что вместе с семьей живет в трехкомнатной квартире в Курасовщине (ее площадь – 80 квадратных метров, зарегистрировано пять человек). В декабре он заплатил за коммунальные услуги 480 тысяч рублей, в январе – 860 тысяч.

По словам футболиста, некоторые пункты в «жировке» он так и не понял.

**Алесь СВЕТЛАНИЧ.**



Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 3286871.
Тэл. рэкламнага аддзела:
(017) 3286609
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

9 772071 964000 16017

Падпісныя індэксы: 63222 – для індывідуальных падпісчыкаў, 632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 29.02.2016 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25 120 экз. Заказ № 891